# КРЫНІЦА

№3 (27) САКАВІК 2012 www.bchd.info





**Сябры!**

Улады давялі Беларусь да жабрацтва. За апошні год кожнага з нас абрабавалі ў тры разы. Рубель абясцэніўся. Кошты пастаянна растуць. Па БТ – хлусня.

Тыя, хто пратэставаў – у турмах.

Замест выбараў – падман. Лукашэнка з усімі пасварыўся. Яму засталося толькі прадаваць Крамлю нашу Беларусь па кавалках: «Белтрансгаз», НПЗ, МАЗ…

На гэтыя грошы жыруюць тыя, хто пры ўладзе, а простыя беларускія сем'і бяднеюць з кожным месяцам.

**На людзей ім пляваць.**
**Бога не баяцца!**
**Ужо 18 гадоў – колькі можна?!**

Рэжым аб'явіў, што правядзе «выбары ў парламент».

Але мы з вамі ведаем, што ні выбараў, ні парламента ў нас няма. Усё вырашае адзін чалавек. І яны зноў рыхтуюць фальсіфікацыі, каб паказаць, што за яго большасць.

Беларускі народ на іх «выбары» не пойдзе.

Пакуль у турмах палітвязні, пакуль галасы не лічаць, пакуль няма свабоды і справядлівасці –

БАЙКОТ ФАЛЬШЫВЫМ «ВЫБАРАМ»!

Яднайцеся, арганізоўвайце самакіраванне і далучайцеся да БХД!

**Толькі разам мы здолеем абараніць нашых дзяцей, нашы сем'і, нашу Беларусь.**


**Кантакты**

**Тэлефон: 8029 1673435,**

**E-mail: bchd.info@gmail.com,**

**Пошта: інд.220123, п/с 324, г. Мінск**

**Сайт: www.bchd.info**

# Родныя палітзняволеных за ўвядзенне санкцый

**Родныя палітзняволеных заклікаюць беларускіх палітыкаў агітаваць еўрапейскія структуры за ўвядзення эканамічных санкцый. Бацькі палітвязняў таксама просяць дэмакратаў аб'яднацца і не ўдзельнічаць у парламенцкай выбарчай кампаніі.**

Такі зварот падпісалі ўдзельнікі адмысловага круглага стала які адбыўся 19.03, арганізаванага камітэтам «За волю». Родныя асуджаных за акцыю пасля прэзідэнцкіх выбараў упэўненыя: санкцыі супраць афіцыйнага Мінска ніякім чынам не паўплываюць на жыццё простых грамадзянаў, але істотна падарвуць упэўненасць тых, хто знаходзіцца пры ўладзе.

Па словах арганізатаркі круглага стала Юліі Фраловай, дэмакратычныя палітыкі проста абавязаны прыслухацца да меркавання сваякоў іх зняволеных паплечнікаў.

– Мы, удзельнікі трэцяга круглага стала па вызваленні палітвязняў, звяртаемся да ўсіх палітыкаў дэмакратычнага руху Беларусі: аб'яднайцеся дзеля вызвалення нашай краіны ад сістэмы збудаванай на падмурках хлусні і страху. Мы заклікаем стварыць адзіны фронт вызвалення Беларусі і выпрацаваць адзіную пазіцыю на міжнародным узроўні, падтрымаць усялякія санкцыі, якія дапамогуць хуткамі банкротству гэтай сістэмы. Свабодных выбараў няма і ўдзелу ў іх не можа быць.

У сваёй заяве родныя палітвязняў адзначаюць, што цалкам падтрымліваюць рашэнне Еўрапейскага саюза аб стварэнні спісу невыяздных з Беларусі чыноўнікаў, датычных да пераследу грамадзянскіх актывістаў.

Апроч гэтага сваякі палітвязняў прывіталі выезд з Мінска амбасадараў краін-сябраў ЕС. На думку ўдзельнікаў круглага стала, гэты крок быў вельмі моцным у справе ціску на беларускі рэжым, які неабходна пашыраць да вызвалення і рэабілітацыі ўсіх несправядліва асуджаных.








# Зварот удзельнікаў круглага стала «Наш боль – Палітвязні»

Мы жывем у час, калі кожны з нас можа апынуцца за кратамі толькі з-за сваіх палітычных поглядаў, дзейнасці, з-за сумлення, з-за не жадання падпарадкоўвывацца пануючай дыктатуры, кожны з нас можа стаць ахвярай палітычных рэпрэсій, стаць палітвязням. І так важна нам усім быць салідарнымі ў справе абароны палітзняволеных, іх падтрымкі, дапамогі ім. На вялікі жаль, сярод нашага грамадства, праваабаронцаў, палітыкаў няма еднасці і паразумення ў пытанні адзінага спіса палітвязняў Беларусі, няма крытэрыяў вызначэння палітзняволеных, няма празрыстай, прамой дыскусіі, няма галоснасці. Таму мы звяртаемся да ўсіх праваабарончых арганізацый, партый, рухаў, аб'яднанняў, да ўсіх неабыякавых людзей з прапановамі:

- для вызначэння палітычных зняволеных Беларусі стварыць Экспертную Раду, у якую прапануем увайсці прадстаўнікам розных праваабарончых арганізацый, палітычных партый, рухаў, грамадскіх аб'яднанняў, грамадскіх актывістаў. Вынікі працы Экспертнай Рады рабіць празрыстымі і друкаваць у СМІ.
- на першым паседжанні Экспертнай Рады вызначыцца з крытэрыямі прызнання чалавека палітзняволеным і надрукаваць гэтыя крытэрыі ў СМІ, каб грамадзянам Беларусі было зразумела, чаму той, ці іншы чалавек прызнаны палітвязнем, ці не прызнаны.
- Экспертнай Радзе пры абмеркаванні прызнаваць, ці не прызнаваць грамадзяніна палітзняволеным аддаваць перавагу прэзумпцыі невінаватасці чалавека. Лепш памыліцца і ўступіцца за вінаватага, чым не абараніць, не дапамагчы непавіннаму, асабліва, калі гэты чалавек, ці яго родныя займаліся праваабарончай, грамадска-палітычнай дзейнасцю і ёсць верагоднасць, што ўлада помсціць, ужываючы рэпрэсіўныя, супрацьзаконныя метады.

Арганізацыйныя пытанні па рэалізацыі гэтых прапаноў ускласці на каардынацыйную групу «За Волю»

*29.02.2012*

# Ўратаваць Сяргея Каваленку!




Дыктатарскі рэжым у Беларусі забівае Сяргея Каваленку.

Сяргей Каваленка быў асуджаны ў траўні 2010 года да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна за вывешванне нацыянальнага сцяга на галоўнай ёлцы Віцебска на Раство 7 студзеня таго ж года. 19 снежня 2011 года яго затрымалі, абвінаваціўшы ў чатырох парушэннях, якія ён нібыта здзейсніў, адбываючы пакаранне. Па артыкуле 415 КК яму пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі. 20 снежня актывіст аб'явіў галадоўку пратэсту. 22 лютага 2012 года над ім распачаўся суд.

Відавочна, што і абвінавачванне, і пакаранне абмежаваннем волі за сцяг, і гвалт над сваякамі Сяргея, і «медычныя агляды», і сам так званы суд – гэта дэманстратыўны здзек над правасуддзем і павольнае публічнае забойства чалавека, які два месяцы трымае галадоўку пратэсту.

Каваленку знішчаюць за тое, што ён уздымае нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг – сцяг беларускай свабоды, старажытны хрысціянскі сімвал, белую палатніну з крывёю ўкрыжаванага і ўваскрослага Ісуса, той самы, які ляжыць у аснове нацыянальных сцягоў Ангельшчыны, скандынаўскіх краінаў, Грузіі, Грэцыі, Швейцарыі ды іншых.

БХД звяртаецаца да беларускай і міжнароднай супольнасці з заклікам ужыць усе магчымыя спосабы ўплыву на рэжым Лукашэнкі ў справе Каваленкі. Гаворка ідзе пра жыццё і смерць чалавека, пра востры прыклад для ўсяго народу Беларусі.

БХД заклікае падтрымаць Сяргея і ягоную сям'ю салідарнасцю і малітвай.

**Свабоду Сяргею Каваленку!**

# Жыхарам Бабруйска раздалі 4 тыс. улётак пра Яўгена Васьковіча



RFE/RL

**Бабруйскія дэмакратычныя актывісты распаўсюдзілі сярод жыхароў горада каля 4 тыс. улётак з інфармацыяй пра ўраджэнца горада – беларускага палітвязня, актывіста Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Яўгена Васьковіча, якому 26 лютага спаўняецца 22 гады.**

«Аркушы мы раскідалі па паштовых скрынях у тых раёнах, дзе жыў, вычуўся і працаваў Яўген, а таксама па выбарчай акрузе, ад якой ён балатаваўся ў мясцовыя саветы. Агулам каля 4 тыс. аркушоў», – адзначыла магілёўская каардынатарка БХД Таісія Кабанчук.

У ноч з 16 на 17 кастрычніка 2010 году ў Бабруйску зрабілі напад на будынак КДБ. Яўгена Васьковіча затрымалі 17 студзеня 2011 года ў Магілёве на наступны дзень пасля яго ўдзелу ў акцыі салідарнасці збеларускімі палітвязнямі. Пракурор даводзіла, што дзеянні падсудных маглі прывесці да знішчэння ўсяго будынка КДБ. Страты маглі скласці блізу двух мільярдаў рублёў. Рэальныя ж страты ад нападу склалі 253 тысячы рублёў, і гэтыя грошы ўжо выплацілі. Яўген Васьковіч заявіў, што не шкадуе аб учыненым. Ён назваў сябе ліцвінам і дадаў, што яго святы абавязак – бараніць нацыянальныя беларускія каштоўнасці. «За іх я ўмерці гатовы, бо жыццё кароткае, а радзіма вечна», казаў хлопец. Яго не спалохаюць цяжкасці, і ён з годнасцю іх пройдзе. Скончыў свой кароткі выступ Васьковіч воклічам: «Жыве Беларусь!». Яўгена Васьковіча суд прысудзіў да сямі год зняволеньня калёніі ўзмоцненага рэжыму.

Хаця хрысціянскія дэмакраты не падтрымліваюць анархічных метадаў, наш абавязак - маліцца за Яўгена, дапамагаць яму і ягоным родным дзеля таго, каб малады хлопец мог зразумець: «не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром» (Рым., 12:21).

# У Бабруйску адзначылі дзень народзінаў Яўгена Васьковіча

**У Бабруйску 27 лютага адбылася вечарына, прымеркаваная да дня народзінаў сябра БХД, палітвязня Яўгена Васьковіча і прысвечаная ўсім палітычным зняволеным у Беларусі. На ёй сярод іншых прысутнічалі бабулі Васьковіча – Тамара Уладзіміраўна і Зоя Іванаўна, якія зачыталі ліст падзякі ўсім, хто дапамагае іх сям'і.**

Мерапрыемства арганізавалі сябры бабруйскай філіі БХД супольна з іншымі сябрамі Бабруйскай рады дэмакратычных сілаў. На вечарыне быў паказаны слайд-фільм Вольгі Мікалайчык «Палітвязні» і прэзэнтаваная літаратура, прысвечаная беларускім палітвязням ад часоў сталінскіх рэпрэсіяў.

Свае вершы на вечарыне чытаў Анатоль Санаценка, рэдактар інтэрнэт-выданьня «Бабруйскі кур'ер», у якім да арышту працаваў Яўген Васьковіч. Адзін з вершаў Санаценка адмыслова прысвяціў Яўгену да яго дня народзінаў.

Бабулям Яўгена Васьковіча ўручалі цукеркі і падарункі, казалі добрыя, шчырыя словы падтрымкі. Абласная каардынатарка БХД Таісія Кабанчук падарыла бабулям радыёпрымач «Акіян», каб яны маглі слухаць радыё «Свабода». Гэты прыймач падаравалі Таісіі Карпаўне ў 1997 годзе. Тады яе сын, былы палітвязень Вадзім Кабанчук быў зняволены за ўдзел у акцыі пратэсту, і радыёпрымач дапамагаў ёй слухаць навіны «Радыё Свабода». Праз паўгода Вадзіма вызвалілі. Таісія Кабанчук пажадала абедзвюм бабулям, каб іх унука вызвалілі значна раней.

Маці Васьковіча таксама падзякавала «ўсім знаёмым і незнаёмым людзям». Яна сказала: «Хачу праз вашу газету падзякаваць усім знаёмым і незнаёмым людзям за арганізацыю і правядзенне дня народзінаў майго сына Яўгена, якое арганізавалі Таісія Карпаўна, Анатоль Казіміравіч, Алеся і іншыя. На жаль, я не ведаю іх прозвішчаў. Нізкі вам паклон не толькі за маральную, але і вялізную матэрыяльную падтрымку, якая была вельмі своечасовай. Падтрымліваюць не толькі Яўгенія, але і нас. Ваша партыя БХД падтрымлівае не толькі зняволеных, але таксама іх сем'і.

Нізкі паклон вам, дарагія сябры. Мы ўсе будзем маліцца за вас і вашых блізкіх. Яшчэ раз вялізны дзякуй вам».

# Зміцер Дашкевіч пакараны карцэрам на месяц

**Старшыня «Маладога фронту» і сябра Партыі БХД Зміцер Дашкевіч змешчаны на месяц у карцэр. Пра гэта стала вядома Насце Палажанцы, нявесьце актывіста.**

«30 дзён – такога тэрміну яшчэ ніколі не было, як правіла, больш за 10 сутак не даюць. З чым гэта звязана, не ведаем. Але мы ўпэўненыя і бачым паводле тэндэнцыі, што гайкі закручваюцца ўсё болей, ціск узмацняецца. Ці ёсць мэтай прымусіць яго да падпісання нейкіх папераў, ці мэта ў тым, каб штосьці прадэманстраваць на ім, невядома. Але Зміцер трымаецца моцна, бадзёра. У размове з адвакатам быў спакойны, што сведчыць пра тое, што Дашкевіч і праз гэтае выпрабаванне пройдзе прыстойна».

Зміцер Дашкевіч адбывае 2 гады ў Глыбоцкай калоніі. Актывіст быў арыштаваны за дзень да прэзедэнцкіх выбараў 18 снежня 2010 года, і асуджаны паводле артыкула аб злосным хуліганстве. Сваёй віны Зміцер Дашкевіч не прызнае і кажа пра правакацыю спецслужбаў.

Спачатку Зміцер Дашкевіч адбываў тэрмін у Горацкай калоніі, адкуль у канцы мінулага году яго перавялі ў Глыбоцкую калонію і змясцілі ў памяшканне камернага тыпу. У гэтай калоніі сама меней двойчы Дашкевіча каралі карцэрам.

*Радыё Свабода*

# Нямецкі міністр Пофала патрабуе ад Менска пераглядзець рашэнне аб нерэгістрацыі БХД

**Федэральны міністр Нямеччыны, дэпутат Бундэстагу Рональд Пофала звярнуўся да кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі з патрабаваннем пераглядзець рашэнне Міністэртства юстыцыі аб нерэгістрацыі партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». Пра гэта ён паведаміў у сваім лісце да сустаршыняў БХД Паўла Севярынца, Віталя Рымашэўскага і Георгія Дзмітрука.**



Апроч таго, ён папрасіў аб падтрымцы БХД генеральнага сакратара ХДС Германа Гроэ. «Факты адмовы ў рэгістрацыі і спробаў запалохвання цэлага шэрагу асобаў, якія падпісалі заяву пра рэгістрацыю партыі, з'яўляюцца чарговым пацверджаннем рэпрэсіўнай палітыкі кіраўніцтва беларускай дзяржавы. У дадзенай сітуацыі хачу вас запэўніць у нашай салідарнасці», - адзначыў ён.

«Вам асабіста перадаю сардэчныя вітанні і глыбокую павагу ў сувязі з тым, што вы, нягледзячы на высокі рэпрэсіўны ціск, працягваеце мужна адстойваць свабоду і хрысціянска-дэмакратычныя каштоўнасці. У вашай важнай працы жадаю вам вытрымкі, высокага ўзроўню падтрымкі і поспехаў», - падкрэсліў Рональд Пофала.

# Віцебск: Валера Ганчарэнку вызвалілі з псіхіятрычнага аддзялення

**14 сакавіка пацыента Багушэўскай абласной сухотнай лякарні Валера Ганчарэнку вызвалілі з псіхіятрычнага аддзялення і змясцілі ў агульнае. Пра гэта прэсавай службе Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі паведаміла віцебская абласная каардынатарка аргкамітэта БХД Тацяна Севярынец.**

Разам з тым дыягназ, выстаўлены Ганчарэнку 20 снежня, шызоіднае засмучэнне асобы, пакінулі без зменаў. Галоўурач БОТБ Наталля Лясная таксама папярэдзіла, што зноў змесціць актывіста ў псіхіятрычнае аддзяленне, калі пра яго будуць пісаць апазіцыйныя выданні. І ён ужо адтуль не выберацца, адзначыла яна.

«Я лічу, што вызваленне звязанае з адвакацкім запытам, які быў адасланы з нашай ініцыятывы. Хутчэй за ўсё, дакументы не былі належным чынам аформленыя, і галоўурачу трэба было неяк выкручвацца. Я лічу гэта нашай невялікай перамогай. Гэта значыць, што нашы намаганні не былі марнымі», - адзначыла Тацяна Севярынец.

Нагадаем, што інвалід другой групы Валер Ганчарэнка, хворы на адкрытую форму сухотаў, які ў нашай «сацыяльнай краіне» не можа атрымаць годнага лекавання, 12 снежня абвясціў галадоўку і адмовіўся ад прыёму медыкаментаў. На восьмы дзень галадоўкі ён быў змешчаны ў псіхіятрычнае аддзяленне.

28 снежня віцебскія актывісты і прадпрымальнікі перадалі гуманітарную дапамогу пацыентам Багушэўскага абласнога сухотнага шпіталю. У склад дапамогі ўвайшлі бялізна, вопратка, абутак, прадукты харчавання, невялікая бібліятэка. У адказ Валеру Ганчарэнку пачалі ўзмоцнена калоць заспакойлівыя псіхатропныя рэчывы.

Звароты Тацяны Севярынец ў віцебскую пракуратуру не прывялі да якіхсьці вынікаў. 1 сакавіка з яе ініцыятывы быў адасланы адвакацкі запыт наконт Валера Ганчарэнкі.



# Магілёў: Алег Аксёнаў дамогся прызнаць парушэнне ўмоваў кантракту

**Намеснік каардынатара аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» па Магілёўскай вобласці Алег Аксёнаў дамогся ад Магілёўскага домабудаўнічага камбіната звальнення з выплатай трохмесячнай дапамогі ў сувязі з парушэньнем наймальнікам працоўнага кодэкса.**



Працадаўца збіраўся звольніць актывіста па сканчэнні працоўнага кантракта.

17 студзеня адміністрацыя прадпрыемства афіцыйна паведаміла пра гэта работніку. З такой фармулёўкай Аксёнаў не пагадзіўся і звярнуўся ва ўпраўленне Дэпартамент дзяржаўнай інспекцыі працы:

«Там прызналі, што парушэнні былі – несвоечасова выплачвалася заработная плата. Пазаўчора я атрымаў адтуль афіцыйны адказ. І ўчора была пададзена заява аб звалненні з прыкладзеным адказам з упраўлення. Сёння заява была цалкам задаволена. Гэта азначае, што наймальнік павінен выплаціць мне трохмесячную дапамогу ў памеры сярэдняга памеру заработнай платы. Фармулёўка звальнення гучаць так: «Скасаванне кантракта па ініцыятыве працоўнага ў сувязі з парушэннямі ўмоваў кантракта наймальнікам», – зазначае Алег Аксёнаў.

Актывіст настойвае на тым, што адміністрацыя пазбавілася ад яго, бо ён бараніў правы працоўных прадпрыемства, узначальваў забастовачны камітэт на камбінаце:

«З маім звальненнем праваабарончая дзейнасць на прадпрыемстве не скончаецца. Засталіся людзі, якія будуць яе працягваць, і я буду дапамагаць ім.

Мы выставілі перад адміністрацыяй у свой час дзесяць пунктаўпатрабаванняў. Выканана было толькі два. Асноўнае, што невыканана – не ліквідаваныя небясьпечныя зоны ў цэхах прадпрыемства», – кажа Алег Аксёнаў.

На камбінаце Алег Аксёнаў працаваў грузчыкам. Кантракт з ім быў заключаны 17 лютага 2010 году.

*Радыё Свабода*

# Менск: МХД павіншавала менчукоў з Днём роднай мовы

**21 лютага Маладыя хрысціянскія дэмакраты павіншавалі менчукоў з Днём роднай мовы. З самай раніцы моладзь разлеплівала на інфармацыйных слупах уздоўж ліній метро «святочныя плакаты» з самымі звычайнымі беларускімі словамі.**

- На плакатах мы напісалі самыя простыя і звыклыя словы для сучаснага носьбіта беларускай мовы. Агулам выйшла 16 слоў на адзін слуп. Нашыя «слоўнікі» было добра відаць і ранішнія мінакі з цікавасцю разглядалі, што было напісана на слупах. Галоўная задача нашай акцыі – нагадаць грамадству пра складаны стан мовы. Таксама нешматлікія ведалі, што 21 лютага міжнародны дзень роднай мовы. Спадзяемся, што беларусы ўспомнілі лёгка забытыя словы, і абавязкова будуць выкарыстоўваць ва ўжытку, - пракаментаваў Зміцер Трафімчук, актывіст МХД.

Як адзначыў іншы актывіст МХД Ігар Лабкоў, толькі адзін мінак выказаў абурэнне з прычыны акцыі. «Ён сказаў, што мы парушаем правы. Але гэта не так. Гэта дзяржава парушае нашы правы і правы іншых беларусаў, вынішчаючы беларускую мову. І гэтай акцыяй мы спрабавалі зацікавіць людзей беларускай мовай», – адзначыў ён.

# Гомель: За антыалкагольную кампанію затрымалі сяброў БХД

**23 лютага ў Гомелі затрыманы тры актывісты, якія мелі намер правесці чарговую інфармацыйную акцыю ў межах грамадскай кампаніі «Хопіць піць – трэба жыць!».**

У 12.20 каля ўнівермага «Гомель» актывісты пачалі раздаваць прахожым інфармацыйныя матэрыялы з заклікам «Хопіць піць – час сям'ю карміць і краіну бараніць!», а таксама віншаванні з Днём абаронцаў Айчыны.

Ва ўлётцы змяшчалася інфармацыя пра шкоду алкаголю, пра тое, што п'яныя людзі не могуць быць абаронцамі, а, наадварот, самі знаходзяцца на мяжы бедства. «Абаронца Айчыны, звярні свой позірк на галоўнага ворага, які паражае наша грамадства знутры. Абарані дзяцей і іх будучыню ад атруты, алкаголь – зброя генацыду!» – сказана ва ўлётцы.

Праз дзве-тры хвіліны да арганізатараў акцыі падышлі супрацоўнікі спецназа.

Не назваўшы сябе і не растлумачыўшы прычыны сваіх дзеянняў, яны затрымалі маладых людзей і адвялі ў невядомым напрамку. Інцыдэнт здымалі на відэакамеру невядомыя аператоры ў цывільным.



Разам з Кастусём Жукоўскім у аддзел міліцыі былі адвезены сябар Нацыянальнай Рады БХД Дзмітрый Карашкоў і актывіст БХД Андрэй Папоў.

# Бабруйск: актывісты БХД распачалі збор сродкаў для сям'і Сяргея Каваленкі



**У Бабруйску прайшоў другі этап 5-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі. Па яго сканчэнні тэксты, напісаныя ўдзельнікамі дыктоўкі, былі адасланыя беларускім палітвязням. Пра гэта паведаміла Магілёўская абласная каардынатарка Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Таісія Кабанчук.**

Разам з тым, хто не здолеў узяць удзел у мерапрыемстве, Таісія Кабанчук прапанавала самастойна напісаць тэксты малітваў, урыўкі з Бібліі і даслаць іх палітвязням.

Апроч таго, паводле яе словаў, у Бабруйску распачаўся распаўсюд інфармацыі пра галадоўку Сяргея Каваленкі і збор фінансавых сродкаў, якія пералічваюцца на рахунак яго жонкі.

# Справу ў дачыненні Дзяніса Дашкевіча перадалі ў суд

**13 сакавіка справу ў дачыненні да рагачоўскага каардыанатара аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Дзяніса Дашкевіча перадалі ў суд. Пра гэта ён паведаміў прэсавай службе БХД, адзначыўшы, што пра час суду яму паведамяць позвай.**

Актывіста вінавацяць паводле арт. 9.21 КоАП Беларусі у парушэнні аўтарскіх, сумежных і патэнтных правоў. Заяву на яго ў пракуратуру напісаў рэдактар афіцыйнай раённай газеты «Свабоднае слова» Андрэй Шышкін. Афіцыйнай прычынай заявы стала змяшчэнне на незалежным навіновым сайце *vrogacheve.ru* дзевяці матэрыялаў з газеты і фотаздымка старшыні райвыканкаму Віктара Банчука. Міліцыя лічыць адміністратарам сайту Дзяніса Дашкевіча, таму і склала супраць яго адміністрацыйны пратакол.

Актывіст адзначае, што ў Рагачове незалежны сайт карыстаецца вялікай папулярнасцю. Яго штодзённая наведвальнасць у 30-тысячным Рагачове складае 400 чалавек, што,



па словах Дзяніса Дашкевіча, значна больш за наведвальнасць сайту «Свабоднага слова». «Гэта звычайная зайздрасць да папулярнасці сайту, спроба такім чынам змагацца з канкурэнцыяй», – адзначыў каардынатар БХД.

# Дзяніса Дашкевіча звольнілі з працы

**Каардынатара аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская дэмакратыя» па Рагачове Дзяніса Дашкевіча звольнілі з працы ў рагачоўскім РайПО. Пра гэта ён распавёў прэсавай службе БХД. З ім не працягнулі кантракт з 13 сакавіка.**

«Прама сказалі, што за маю актыўнасць. Дадалі, што «вы ж самі ўсё разумееце», - адзначыў актывіст.



Дзяніс Дашкевіч з'яўляецца адным з найбольш актыўных актывістаў дэмакратычных сілаў у Рагачове, за што неаднаразова пераследваўся ўладамі. Зараз супраць яго распачатая адміністратыўная справа па ініцыятыве рэдактара раённай газеты. Разам з тым Дзяніс Дашкевіч не спыняе сваёй дзейнасці. Гэтак, ён ініцыяваў і праводзіць кампанію па вяртанні ў горад правядзення Дажынак.

# Рагачоўскія актывісты сабралі каля 300 подпісаў за правядзенне Дажынак у Рагачове

**У сакавіку рагачоўскія актывісты ўжо сабралі 300 подпісаў за правядзенне Дажынак у іхным горадзе. Пра гэта прэсавай службе Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі паведаміў мясцовы каардынатар БХД Дзяніс Дашкевіч.**

Актывіст разлічвае сабраць каля 3 тыс. подпісаў.

«Напачатку «Дажынкі-2013» мусілі прайсці ў Рагачове. Яшчэ 11 лютага раённая газета пісала пра гэта. Людзі спадзяваліся, што, дзякуючы ім, горад будзе адрамантаваны, упрыгожаны. Але пасля ўлады перанеслі «Дажынкі» ў Гомель. Рагачоўцы абураныя гэтым, яны ўспрынялі адмову вельмі блізка да сэрца», - адзначыў ён.

Апроч таго, Дзяніс Дашкевіч мае намер у межах кампаніі «Вернем Дажынкі ў Рагачоў» правесці сход грамадзянаў. Ён адзначыў, што ўлады пасля ўзгаднення пэўных фармальнасцяў гатовыя вылучыць для яго правядзення Раённы дом культуры.

# Віталь Рымашэўскі: СВЯТА. Вобраз ідэальнай жанчыны. Ад «праздника женщин» да свята жанчыны.



**8 сакавіка ў Беларусі адзначаецца «дзень жанчын». Пра сутнасць свята і вобраз ідэальнай жанчыны піша ў сваім блогу сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі.**

Для кожнага чалавека ўяўленне пра свята звязана з нечым прыгожым і светлым, што губляецца і забываецца ў мітусні будзённага жыцця.

Свята – гэта дотык чалавека да нейкай страчанай прыгажосці, мары аб магчымасці іншага. Сутнасць святаў менавіта ў гэтым, хаця б часовым, далучэнні да рэчаіснасці ўзнёсласці і святла, да рэчаіснасці шчасця.

Калі гэтай рэчаіснасці няма, тады па сутнасці – няма чаго святкаваць, і ніякімі штучнымі ўздымамі свята не стварыць.

Чым для нас з'яўляецца свята, апроч магчымасці выспацца, паесці, папіць, адпачыць? Чаго мы чакаем ад свята?

Звычайна большасць святаў звязаная з выбітнымі падзеямі альбо асобамі. Нават калі свята не мае прысвячэння нейкай канкрэтнай асобе, складаюцца шматлікія рэйтынгі ўплывовасці, пасяховасці, прыгажосці і г.д. Напрыклад, 8 сакавіка, згадваюцца выбітныя жанчыны сучаснага і мінулага…

Грамадства стварае ўзоры для пераймання. Затым гэтыя вобразы самі пераўтвараюць чалавека і грамадства.

Дабрабыт, кар'ера, сіла, амбітнанасць, прыгажосць... – дзесяткі крытэраў, па якіх сучасны свет вызначае лепшых жанчын.

Пошук ідэалу – гэта ўсё той жа пошук адказу на пытанне – «як стаць шчаслівымі?» Чалавек абірае сабе вобраз, які, на яго думку, можа служыць эталонам, каб затым ва ўласным жыцці імкнуцца для пераймання.

Менавіта таму сёння немагчыма не ўзгадаць пра асобу, жыццё якой перавярнула само ўяўленне пра ролю і месца жанчын ў свеце і грамадстве. Яна не толькі застаецца дагэтуль самай вядомай жанчынай свету, але і самай уплывовай. Апроч гэтага, мільярды людзей прызналі яе самым выбітным чалавекам сярод мужчын і жанчын.

Імя гэтай жанчыны – Марыя, маці Ісуса Хрыста, тая, праз якую сам Бог прыходзіць у свет, да людзей, каб падзяліць іх жыццё і вярнуць яму страчаны сэнс.

У асобе Марыі здзяйсняецца тое, да чаго імкнецца кожны чалавек – даць жыццю канчатковую мэту і прызначэнне, асвятліць яго святлом вышэйшага вопыту.

Узіраючыся ў гэты вобраз, мы здолеем убачыць адзіны сапраўдны вобраз жыцця і чалавека, адкрыццё, якое ў ёй раскрылася пра нас саміх, аб глыбіні, прыгажосці, чысціні і святле.

У асобе Марыі нам дадзена самае глыбокае раскрыццё сутнасці хрысціянскага вучэння. У наш час гэта асабліва важна, бо ў свеце прынята прызнаваць сілу гвалту і панавання, амбіцыйнасць, разбэшчанасць і эгаізм сталі звычайнай нормай жыцця. Сучасны свет жыве пад лозунгамі барацьбы ўсіх за правы ўсіх. У гэтай барацьбе багата ўласнай прагі панавання, славалюбства і вельмі мала праўды і любові. Часам такая барацьба можа прынесці людзям уяўную перамогу, але ніколі не прыносіць шчасця. Усяму гэтаму супрацьстаіць, усё гэта выкрывае – Марыя, вобраз бясконцай пакоры, але таксама і сілы і прыгажосці пакоры, вобраз чысціні – і яе сілы і прыгажосці, вобраз кахання – і перамогі гэтай любові.

Вельмі слушна і прыгожа сказана пра Марыю адным з хрысціянскіх багасловаў.

Дзева Марыя, Прачыстая Маці нічога не патрабуе – і ўсё атрымлівае. Нічога не дамагаецца – і ўсім валодае. У вобразе Панны Марыі ўсё тое, чаго амаль ужо не засталося ў нашым мужчынскім, ганарлівым і агрэсіўным свеце: спагада, жаль, клопат, давер; пра сябе яна кажа: «вось раба Гасподняга», а мы называем Яе царыцай неба і зямлі, Уладарка і Валадаркай. Дзева Марыя нічому не вучыць, нічога не даказвае – але вось адна яе прысутнасць, святло і радасць гэтай прысутнасці проста здымаюць выдуманыя, вымучанай намі праблемы. Як калі б пасля доўгага, пакутлівага, раз-

бітага дня мы вярнуліся дадому, і ўсё зноў ясна, і ўсё поўна таго, што ніякімі словамі не перадаецца шчасця, якое і ёсць адзінае сапраўднае шчасце.

Само паходжанне беларускага слова «свята» кажа пра тое, што ў мінулым разуменне святкавання было неадрыўна звязанае з духоўным, рэлігійнымі сэнсам.

Са стратаю гэтага сапраўднага сэнсу паміж святам і з жыццём кожнага чалавека сыходзіць і святло і шчасце.

Таму калі сёння я жадаю ўсім жанчынам Беларусі знайсці сапраўднае свята і сапраўднае шчасце для сябе і сваіх блізкіх. Жадаю, каб побач з кожнай з Вас заўсёды быў жывы вобраз Дзевы Марыі – ідэальнай жанчыны, маці, жонкі, найлепшага Чалавека. Жанчыны, каторая жыла звычайным – няпростым чалавечым жыццём. якая прайшла праз пакуты і боль, але якая знайшла сапраўднае шчасце і стала, безумоўна, самай уплывовай і самай шчаслівай з усіх людзей.

# У Бабруйску вывесілі бел-чырвона-белы сцяг

**У Бабруйску 16 сакавіка на скрыжаванні ля Дому сувязі невядомыя вывесілі бел-чырвона-белы сцяг.**

«Сцяг ужо вісіць каля дзвюх гадзінаў», - паведаміла магілёўская абласная каардынатарка аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Таісія Кабанчук.

Нагадаем, што 12 сакавіка сустаршыня БХД Павал Севярынец заклікаў 16 сакавіка ў знак салідарнасці з Сяргеем Каваленкам і іншымі беларускімі палітвязнямі вывесіць па ўсёй Беларусі бел-чырвона-белыя сцягі.



# Аршанская БХД ў знак салідарнасці з Каваленкам вывесела нацыянальны сцяг

**Аршанская моладзь Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў знак салідарнасці з Сяргеем Каваленкам 17 сакавіка вывесела нацыянальны сцяг. Пра гэта прэсавай службе БХД паведаміў каардынатар аргкамітэту БХД у Воршы Яўген Анішчанка.**

Каваленку знішчаюць за тое, што ён уздымае нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг – сцяг беларускай свабоды, старажытны хрысціянскі сімвал, белую палатніну з крывёю ўкрыжаўнага і ўваскрослага Ісуса, той самы, які ляжыць у аснове нацыянальных сцягоў Ангельшчыны, скандынаўскіх краінаў, Грузіі, Грэцыі, Швейцарыі ды іншых.



# Берасьцейскаму каардынатару БХД Алесю Чаркашыну пракалолі колы ў аўто

**У аўтамабілі каардынатара аргкамітэту па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» па Берасьці Алеся Чаркашына пракалолі тры з чатырох колаў. Палітык бачыць у гэтым палітычны падтэкст.**

Паводле яго словаў, раніцай 15 сакавіка ён заўважыў, што колы аўтамабіля парэзаныя. Актывіст перакананы, што гэта было зроблена адмыслова.

«Напачатку я падумаў, што гэта нейкія звычайныя хуліганы. Але потым зразумеў, што хутчэй за ўсё тут ёсьць палітычны падтэкст. Бо на заўтра палітзьняволены, сустаршыня БХД Павал Севярынец заклікаў вывешваць па ўсёй краіне нацыянальныя сьцягі ў падтрымку Сяргея Каваленкі, які галадае ў турме. Фактычна Сяргей зараз на мяжы жыцьця і сьмерці, таму нам вельмі важна быць салідарнымі зь ім, падтрымаць яго. Таму я прадчуваю, што нехта перастрахаваўся, каб я часам не паехаў вывешваць бел-чырвона-белыя сьцягі. Атрымаў вось такі падарунак на Дзень Канстытуцыі. А салідарнасьць з Каваленкам мы ўсё роўна выкажам, і нават не перад гэтымі ўладамі, а перад Богам. Мы горача молімся за Сяргея. І гэта – найлепшая салідарнасьць», - адзначыў ён.



Пры гэтым Алесь Чаркашын паведаміў, што пакуль ня вызначыў, ці зьвяртацца наконт здарэньня ў праваахоўныя органы. Ён лічыць гэта бессэнсоўным.

# Адам Станкевіч «Родная мова ў святынях»: варыянт Агульнанацыянальнай дыктоўкі ад БХД



**Сябры Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі прапануюць свой варыянт тэксту для V Агульнанацыянальнай дыктоўкі, якая распачалася 21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы. Гэта ўрывак з кнігі «Родная мова ў Святынях» заснавальніка БХД, ксяндза Адама Станкевіча, чый 120-цігадовы юбілей адзначаецца сёлета.**

«Духовае сваё жыццё Чалавек выяўляе пры помачы мовы. Не ўсе на свеце людзі маюць адну, аднольковую мову. На свеце ёсць многа групаў людзей, што карыстаюцца рознымі мовамі. Група людзей, маючая асобную ад іншых, сабе ўласную, мову, маючая так жа асобны характар духовы, часта розніцу ў будове цела, а так жа свае звычаі, сваю мінуўшчыну і сваю зямлю, на



Ks. Ad. STANKIEWICZ.

Rodnaja mowa ŭ światyniach

1929 h.
WILNIA.

якой жыве спрадвеку - завецца народам.

Чалавека, а так жа і ўвесь свет, стварыў Бог. Прырода чалавека, з яе асаблівасцямі паходзіць ад Бога. Адной з гэтых асаблівасцяў чалавека, пры помачы розных прычын, што знаходзяцца за чалавекам, як клімат, гісторыя, варункі палітычныя і інш. - з'яўляецца здольнасць тварыць розныя мовы, розныя народнасці.

Такім чынам мова кожнага чалавека, якой гаварылі яго даўнейшыя прадзеды і якой цяпер гаворыць ён сам, ёсць чалавеку цалкам прыроднай і патрэбнай. Кожны чалавек мову свайго народу, да якога ён належыць, павінен шанаваць, любіць і развіваць, стараючыся, каб яна была як найбольш прыдатнай да выяўлення нашага духовага жыцця.

Чалавек, рэч зразумелая, найлягчэй можа думаць, гаварыць, пісаць, маліцца ў сваей роднай мове. Гэтак ужо збудавана прырода чалавечая. Да сваёй мовы кожны чалавек, кожны народ мае прыроднае, святое права».

*Урывак падаецца сучасным правапісам, лексіка захаваная.*

# Эрнсту Сабілу – 80 год. Шчыра вішнуем!

**18 сакавіка сваё 80-годдзе адзначае евангельскі пастыр, шматгадовы вязень ГУЛАГу, старэйшы сябра Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Эрнст Сабіла. Сябры БХД шчыра віншуюць Эрнста Канстанцінавіча, жадаюць яму моцнага здароўя, супакою, Божай ласкі і вольнай Беларусі для Хрыста!**

З «хіміі» Эрнста Сабілу павішнаваў таксама сустрашыня БХД, палітвязень Павал Севярынец.

У 1951-м пасля двух месяцаў «амерыканкі» яго асудзілі да расстрэлу за «антысавецкую агітацыю, абцяжараную нацыянальнымі і рэлігійнымі забабонамі». Сабіла крытыкаваў як нацыянальную, так і рэлігійную несвабоду ў СССР. Прысуд замянілі на зняволенне, ён адсядзеў 13 гадоў у савецкіх канцлагерах – але і дацяпер каржакаваты, магутны, цягае цэглу для будаўніцтва агромністага дома малітвы ў Асіповічах. Неталопкі, грунтоўны, але гучны, Эрнст Канстанцінавіч расказвае пра ўцёкі з лагера – і кожнае слова бы тую цагліну кладзе: «Бягу. Сілаў няма. Снег. Страляюць. Толькі кулі ўвушшу – жыг! жыг!.. Анівоадная не кранула. Госпад даў выжыць. Думаю, дзеля чаго? Для таго, дзеткі, каб зараз я мог вам распавесці, як было там».



Глядзіш у ягоныя глыбокія беларускія вочы – і наварочваюцца слёзы.

Многая лета, Эрнст Канстанцінавіч!

# АХВЯРНАСЬЦЬ

**Беларусь – гэта ня толькі бель, але і боль. Беларусы – нацыя-ахвяра, укрыжаваная на галоўным геапалітычным скрыжаваньні Эўразійскага мацерыка. Беларусь як ахвяра – кардынальнае паняцьце беларускае гісторыі: гэтак Ахвяра Ісуса Хрыста стаіць у цэнтры гісторыі чалавецтва.**



Увесь Новы Запавет нашае гісторыі, усе апошнія чатыры стагодзьдзі пакуты кшталтавалі ў беларусах характар цярплівага, пакорлівага духу. Унутранае беларускае пачуцьцё ахвярнасьці, роўнага якому мы ня знойдзем сярод іншых народаў, стала адным зь безумоўных нацыянальных рэфлексаў.

Дзе б ні кранулі Беларусь, паўсюль у адказ чуйна кальне боль. Усё, што пра нас ведаюць у сьвеце – рэзаныя, рваныя, разможжаныя раны: Хатынь, Трасьцянец, Курапаты, Берасьцейская крэпасьць, Няміга, Чарнобыль. Кожны эўрапеец інстынктыўна, амаль фізычна адчувае гэтую вобласьць ныючае памяці, для яго гэта «дзесьці там» – і ён трапна пацэліць пальцам на мапе, дзе гістарычна баліць.

Вечная мэта вайсковых ды культуровых гвалтаў, усходніх прарываў «Go west!» і заходніх «Drang nacht Osten!», Беларусь нароўні з палякамі ды габрэйствам належыць да найвялікшых ахвяраў чалавецтва. Сусьветныя войны й катастрофы, імпэрыі й таталітарныя рэжымы, акупацыі й генацыд канцэнтравалі на 1/1000 сушы зьдзек, кроў і сьлёзы ўсяго тысячагодзьдзя.

Беларусь, ахвярная Беларусь – прытулішча гнанага адусюль габрэйства. А там, дзе атаборваецца абраны Богам народ, там, дзе адвечны жыд знаходзіць абжытую абяцаную зямлю – чакай вялікае таямніцы. І болю.

Ува ўсёй Эўропе няма Адраджэньня больш трагічнага, чым беларускае. У прыбалтаў, палякаў, чэхаў увесь нацыянальны арганізм, будзь здароў, працаваў на Resistance ды Renaissanse, і крызіс хваробы вырашаўся напружаньнем у лічаныя дні. Для беларусаў гэтая насалода болю цягнецца дзесяцігодзьдзямі. Нашае Адраджэньне ажыцьцяўляецца такім выключным мізэрам сілаў, на такім фальцэце, такімі непадымнымі й адчайнымі вымогамі, на такой нясьцерпна тонкай і высокай ноце, што хочацца плакаць.

Паглядзіце ў вочы любому беларусу. Такое ўражаньне, што ён пастаянна трывае пакуту.

Беларусі, укрыжаванай між Эўропай і Расеяй, ня суджана стаць дамашняй, добрапрыстойнай сярэднеэўрапейскай краінай. Нельга паверыць у тое, што ўсё надрыўнае беларускае змаганьне йшло за сытае пахлопваньне па бруху й падстрыжаны газон пад вокнамі. Падобна, што гісторыя толькі пільнуе часу, каб ізноў разрадзіцца ў нашай няшчаснай Беларусі.

Беларусь ные й сёньня. Чаму? Паглядзіце на сьвет вакол: што творыцца! Беларусь баліць, і ня можа інакш, бо гэта сэрца.

Вось ужо тысячу гадоў Беларусь пакутуе, церпіць і ахвяруецца за ўсіх.

Несправядліва?

Але ёсьць і найвышэйшая справядлівасьць – Боская.

Ісус Хрыстос узяў на сябе грахі сьвету й стаўся ахвярай за ўсё чалавецтва. «Бо няма любові большае, чым калі хто душу сваю аддасьць за блізкіх сваіх.» (Яна 15:13)

Беларусь насьледуе Хрысту, аддаючы сябе. Наш бел-чырвона-белы сьцяг з крывёю Ісуса – знак таго вялікага Адкупленьня. Бо з пачатку Новае эры ахвяра й пакута – заклад будучага ўваскрасеньня й перамогі.

Беларуская ахвярнасьць – гэта ня прыкрая гістарычная заканамернасьць, што выклікае шкадобу. Гэта – лёс і сэнс Беларусі як вялікага алтара.

Беларуская ахвярнасьць – тая вострая, як расьсячэньне, рыса мэнтальнасьці: яна раніць нашых суседзяў і ўвесь сьвет да самага сэрца.

Беларуская ахвярнасьць – гэта вечная беларуская самаадданасьць, аж да самазабыўнасьці: мы гатовыя аддаваць так, што не застаецца самім нічога. Нават памяці.

Скажаце, гэта кепска?

Гэта проста ў нас у крыві.

Тае самае крыві, што пралілася чырваньню на белае 2000 гадоў таму. «Кроў Хрыста, Які Духам Сьвятым прынёс Сябе, бездакорнага, Богу, ачысьціць сумленьне нашае ад мёртвых дзеяў, на служэньне Богу Жывому й Сапраўднаму.» (Да Габрэяў, 9:14)

Таму:

«Ахвяруем табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час, Беларусь!» (Ларыса Геніюш)

*Кніга Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# 19 лютага ў Менску маліліся за вызваленне палітвязняў



**Адмысловае служэнне, прысвечанае малітве за беларускіх палітвязняў, прайшло ў нядзелю 19 лютага ў пратэстанцкай царкве «Ян Прадвеснік», якая сама два тыдні таму пацярпела ад спецназаўскага налёту. Прыхаджане царквы, а таксама родныя палітычных вязняў маліліся за іх хутчэйшае вызваленне і захаванне здароўя зняволеных.**

По словах пастара Антонія Бокуна хрысціяне ва ўсе часы дамагаліся ад уладаў справядлівасці і законнасці. Асаблівым чынам гэта патрэбна ў час, калі за кратамі працягваюць знаходзіцца незаконна асуджаныя:

- Малітва, таму што палітвязні патрабуюць, каб за іх маліліся. Госпад заўсёды патрабуе, каб маліліся за тое, каб беззаконня было менш, а праведнасці больш. І таму мы вырашылі прысвяціць служэнне, адмыслова гэты час, канкрэтна для малітвы ў гэтай патрэбе. Тым больш, што наш брат Зміцер Дашкевіч таксама адносіцца да тых, хто патрабуе гэтай малітвы.

Удзел у малітве апроч вернікаў царквы ўзяла жонка Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук, а таксама былы зняволены Васіль Парфянкоў.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года кіраўніцтва аб'яднання евангельскіх хрысціян асудзіла дзеянні ўладаў па разгоне мірнай дэманстрацыі 19 снежня.

*Радыё «Рацыя»*

# Выйшаў новы пераклад Бібліі на беларускую мову

**У Мінску пабачыў свет трэці поўны пераклад Бібліі на беларускую мову. Аўтар перакладу – каталіцкі ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, які ў 1968 годзе атрымаў дабраславенне на працу ад самога пантыфіка Паўла VI.**




У 1998 годзе апошні рукапіс перакладу Уладзіслаў Чарняўскі перадаў пратэстанцкаму пастару Антонію Бокуну. Рукапіс быў набраны, прайшоў літаратурную апрацоўку і толькі цяпер – праз 14 гадоў – быў выдадзены Беларускім біблійным таварыствам, перадае Радыё Рацыя.

- Гэты пераклад з'яўляецца адлюстраваннем заходняй традыцыі ў беларускіх перакладах Бібліі. Таму што ён базаваўся на лацінскай Бібліі. Яшчэ адна адметнасць – у ім перакладзены некаторыя некананічныя кнігі, якія ўваходзяць у склад Бібліі, прынятай у каталіцкай царкве. Таксама, гэта першы пераклад Бібліі, у якім ёсць паралельныя месцы, мапы, якія даюць уяўленні пра месцы біблейскіх падзеяў.

Першая поўная Біблія на беларускай мове была выдадзеная ў Нью-Ёрку Янкам Станкевічам і Майсеем Гітліным у 1973 годзе. Пазней пераклад усіх кніг Старога і Новага Запавету ажыццявіў ў 2002-м годзе Васіль Сёмуха.

Апошні пераклад Уладзіслава Чарняўскага, надрукаваны першым накладам у 4 тысячы асобнікаў, паступіць у беларускія кнігарні ўжо самымі бліжэйшымі днямі.



**Шаноўныя браты і сёстры!**

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чаргoвы нумар газеты «Крыніца«, буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Марына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 20 сакавіка 2012 г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.